РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА.

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Дык жа будзем! На Беларусі -- беларусы жывуць!
Янка Купала

Выдаецца са снежня 1994 года | №8 (26), жнівень 1999 года | Кошт па дамове

## Рэгіянальны «экспрэс»

### Усё жыццё за кратамі

Аб сваім змарнаваным і загубленым жыцці, напэўна, не раз прыйдзецца горка пашкадаваць неаднаразова судзімаму А.Машэю, які да гэтага 24 гады з 40 правёў у турме. Але зараз у сваім лёсе ён нічога ўжо не зменіць, паколькі судовай калегіяй па крымінальных справах Віцебскага абласуда ён прызнаны асабліва небяспечным рэцыдэвістам і асуджаны да пажыццёвага зняволення. Дажываць свой век яму прыйдзецца ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Такая суровая ацэнка дзеянняў злачынцы, які пазбавіў мінулай восенню жыцця 17-гадовую Вольгу Ш. У тыя дні Паставы ўзрушыла забойства дзяўчыны сярод белага дня на беразе ракі Мядзелка. Пазней высветлілася, што садыст нейкім чынам здолеў заваяваць давер дзяўчыны, прапанаваўшы пабавіць час у чаканні цягніка ў маляўнічым месцы. Купленыя злачынцам марожанае, закуска і спіртное абяцалі толькі прыемнасць. Калі ж ад любоўных забаў дзяўчына адмовілася, то была забіта.

### "Каскадзёры" нашых дзён

Толькі шчаслівы выпадак дазволіў днямі пазбегнуць смерці пры сутыкненні на перагоне Варапаева-Паставы чыгуначнага састава з аўтамабілем УАЗ. Бачна ў кашулі нарадзіўся і трактарыст з Глыбоцкага раёна, які паехаў на забараняльны сігнал светлафора на пуцях. Ягоны трактар цягнік працягнуў па рэйках, развярнуў і скінуў у прыдарожны кювет. 3-пад сплюшчанай кабіны вылез жывы і здаровы чарговы "каскадзёр". У іншых выпадках заканчваецца ўсё больш сумна. Толькі ў зоне абслугоўвання Варапаеўскай дыстанцыі пуці за мінулы год цягнікі 4 разы пераязджалі людзей на пуцях. У пяці выпадках наязджалі на аўтатранспарт. Не забыўся выпадак з гібеллю на пуцях 22 падцёлкаў з саўгаса імя Ціміразева Глыбоцкага раёна.

### У суседзяў зерня хапае

Калі ў нашай краіне апошнім часам перыядычна нечага не хапае, то ў суседняй Літоўскай рэспубліцы якраз наадварот. Нядаўна Міёрскі камбікормавы завод закупіў у суседзяў зерне, што дазволіла прадоўжыць вытворчасць камбікармоў. Нягледзячы на яго кошт, 42 тыс. руб. за 1 кг., на яго шалёны попыт. Толькі за першы тыдзень працы на літоўскіх кампанентах насельніцтва раёна раскупіла больш 70 тон корму.

У цяжкай сітуацыі з кармамі аказаўся і саўгас "Відзаўскі" Браслаўскага раёна. Яго таксама выручылі літоўцы, дазволіўшы нарыхтаваць каля 200 тон сена на сваёй тэрыторыі. Вось табе і суседзі: у іх чамусьці ўсёды густа, а ў нас -- пуста.

### Кроў людская закіпае

Сёлетні год, які характэрызуецца небывалым узмацненнем сонечнай актыўнасці, міжволі, дапякае людзей і пад цяжарам жыццёвых абставін робіць іх занадта агрэсіўнымі. 12 страшных удараў драўляным ворчыкам па галаве абарвалі жыццё 68-гадовай пенсіянеркі з гарпасёлка Варапаева Пастаўскага раёна. Загінула жанчына, што дзіўна, ад рук сваёй суседкі па двухкватэрнаму дому, таксама ўдавы і далёкай сваячніцы. Паміж сабой бабулькі часта спрачаліся па дробязях, а ў дзень трагедыі пасвараліся за растрэсенае сена на панадворку і за спушчаную сабачку, які паганяў курэй. Няпросты лёс у забойцы, у якой дваццаць гадоў таму назад памёр муж. Адна падымала на ногі пецярых дачок. Зараз пяцідзесяцігадовай злачынцы пагражае турэмны тэрмін ад 8 да 20 гадоў. А ў адносінах 29-гадовага брыгадзіра калгаса "Камінтэрн" Шаркоўшчынскага раёна Ігара Мышко, які ў час спрэчкі задушыў маці, прыгавор суда толькі ўступіў у законную сілу. Гэты душагуб пазбаўлены волі на 12 год з адбываннем у калоніі строгага рэжыму.

### Гуляць дык гуляць

Пражытачны мінімум ў сярэднім на душу насельніцтва складае зараз па рэспубліцы 10.718.631 руб., для працоўных -- 11.345.737, для пенсіянераў -- 8.624.146, для студэнтаў -- 11.129.838, для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 год -- 11.349.077, для дзяцей ва ўзросце да 3 год -- 8.050.147 рублёў.

**У.Шык**



*Гэты цуд прыроды, сонечнае зацменне, глыбачане змаглі назіраць 11 жніўня каля 14 гадзін. Нехта пазіраў у паднябессе з цікавасцю, нехта з патаемным захапленнем, хтосьці з незразумелым страхам. Усё-ткі робіцца неяк не па сабе, калі цемра пагльнае святло. Давайце імкнуцца да светлага і ўзвышанага ў нашым жыцці, а гэты цуд прыроды, спыненае імгненне фотааматарам У.Скрабатуном, няхай застанецца нашай астралагічнай гісторыяй. Дарэчы, поўнае сонечнае зацменне ў Беларусі адбудзецца ў 2126 годзе. Яго будуць назіраць нашы патомкі.*

## Цытата нумара

-- Тятька, эвося народу
Собралось у кабака.
Все гуторят про свободу
Тятька, **кто она така?**
-- Замолчи! Пущай гуторют,
Наше дело -- сторона...
Как возьмут тебя да вспорют,
Так узнаешь, кто она.

**Волинадо**

### Жаніхоў не хапае

Не толькі рэзкае падзенне нараджальнасці і павелічэнне смяротнасці прыводзіць наш народ да паступовага вымірання. Па папярэдніх дадзеных апошняга перапісу насельніцтва добра бачны дэфіцыт жаніхоў у глыбінцы. Так на 32 тыс. жыхароў Міёрскага раёна даняхватка мужчынскай палові складае 2.166 чалавек. Жанчын у райцэнтры пражывае на 567 больш, чым мужчын, а ў Дзісне -- на 226. Нават у адзіным пастаўскім раёне, дзе гараджан на 4.500 чалавек больш, чым вяскоўцаў, чароўным дамам складана знайсці сябра жыцця, бо мужчын не дабіраецца ажно 3.848 чалавек.

### У Лужках свой амфітэатр

Буйнейшая вёска Шаркоўшчынскага раёна -- Лужкі займела свой драўляны амфітэатр нечым падобны на славуты віцебскі, толькі меншы па памерах. Гэтую сцэну пад адкрытым небам у прыгожым месцы, на беразе рэчкі Мнюта, прыйшлося будаваць мясцоваму саўгасу "Гарадзец" з нагоды 480-х угодкаў з дня заснавання вёскі. Трыста гадоў Лужкі мелі статус мястэчка. Зараз тут жыве каля 1000 жыхароў. Дзейнічаюць два храмы, працуе адна з лепшых у вобласці сярэдняя школа, дзе да вайны выкладаў Язэп Драздовіч. Маюць вяскоўцы свой стадыён, рынак, дом культуры, дзіцячую музычную школу, бібліятэку, бальніцу і паліклініку.



Міхайлаўскі касцёл у Лужках

## інфармацыйны блок ПРЫСТУПКІ

### падзеі і факты без каментарыяў

- Першая ледзі ЗША Хілары Клінтан рыхтуецца да барацьбы за пост сенатара ад штата Нью-Йорк.
- За першае паўгоддзе ў рэспубліцы асуджаны 28 тыс. 466 чалавек. 10 чалавек прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, 5 атрымалі пажыццёвае зняволенне. У выніку злачынстваў загінула больш як 1.200 чалавек, з іх 520 -- забіты наўмысна.
- Сярэдні заробак суддзей складае 30-35 млн. руб.
- З 1 жніўня падаражэла паліва для насельніцтва, якое адпускаецца са складоў сістэмы прадпрыемстваў "Віцебскпаліва". Вугаль каменны каштуе зараз 4 млн. за тону, брыкет тарфяны -- 1,5 млн., брыкет торфавугольны -- 2 млн., дровы паліўныя -- 280 тыс. за 1 скл. м$^3$. Свабодная цана на ўсе віды паліва намнога большая.
- У сувязі з неблаганадзейнай дэмаграфічнай сітуацыяй у Беларусі ў бліжэйшыя 5-7 год знізіцца колькасць вучняў з 1,6 да 1,2 млн. чалавек.
- За першую палову 1999г. у выніку няшчасных выпадкаў у Беларусі загінула 130 рабочых прамысловасці, 308 атымалі траўмы.
- Летась на добраўпарадкаванне Пастаў зрасходавана 10,8 млрд. рублёў. Сёлета за паўгода -- 28,1 млрд. руб. Сродкі выдзелены з раённага і абласнога бюджэтаў.
- Летась на ўборцы ўраджаю была задзейнічана міліцыя. Сёлета на падмогу вяскоўцам, згодна загаду міністра абароны А.Чумакова, будуць адпраўляцца ваеннаслужачыя.
- У час перамоў паміж дэпутатамі Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання і членамі спецыяльнай рабочай групы Парламенцкай асамблеі АБСЕ, было выяўлена падслухоўваючае прыстасаванне.
- А.Лукашэнка распарадзіўся ўвесці на ўсіх прыватных АЗС дзяржаўнае кіраванне.
- 20 прадпрыемстваў Глыбоцкага раёна за 6 месяцаў гэтага года спрацавалі са стратамі, якія склалі 98,7 млрд. руб.
- За паўгоддзе ў нашым раёне здзейснена 6 крадзяжоў з аб'ектаў гандлю. Выпадкі крадзяжу парасят зарэгістраваны ў калгасе "17 верасня", коней -- у саўгасе "Яблынька", цялят -- у калгасе імя Чапаева. Праваахоўнымі органамі выяўлена 200 фактаў дробных крадзяжоў на прадпрыемствах раёна і ў гаспадарках. 301 чалавек прыцягнуты да адказнасці за распіццё спіртных напіткаў у забароненых месцах, у тым ліку 66 -- за п'янку на рабочых месцах.



Напрыканцы лета. Шчаслівая буслiная сям'я рыхтуецца да адлёту.

### Соладка на Міёршчыне

Ужо некалькі гадоў калгас імя Кірава Міёрскага раёна апроч вырошчвання зерневых, продажу мясамалака займаецца пчалярствам. Першы "ўраджай" прынёс 400 кг. мёду. Гэты прадукт сваім працаўнікам прадалі па льготнай цане. Частка мёду пайшла на рынак. Гарачыня перашкаджае пчолам, бо высыхаюць травы-меданосы. Але пчаляры разлічваюць мець яшчэ каля тоны залацістага прадукта. Ужо на Віцебшчыне сабралі па 4 кг. мёду на адну пчола-сям'ю.

*На конкурс "Журналісты на карысць верхавенства закону".*

# Дзённікі

**Калі чалавека перапаўняюць пачуцці, а выказацца няма каму, калі твае думкі акружаючыя лічаць глупствам, калі над табой насміхаюцца людзі, якіх ты хочаш абараніць -- застаецца адно выйсце: паразмаўляць "па душах" з лістом паперы. Гэта я раблю ўжо некалькі дзесяткаў год. Падзеі асабістага жыцця і падзеі агульнанародныя, мае назіранні і вывады знаходзілі месца на старонках вучнёўскіх сшыткаў, коратка пазначаных, як дзённікі.**

**Чамусьці з маленства ў мяне абвастрылася пачуццё справядлівасці. Выхаваная на веры ў Бога, я шмат чаго не разумела з таго, што рабілася навокал. З кожным годам у мяне ўзнікала ўсё больш пытанняў, адказы на якія знаходзіла пазней, спрабую знаходзіць і зараз.**

**Зрабіўшы "рэвізію" сваіх запісаў, сёння я прадстаўляю найбольш трапныя вытрымкі, якія датычыліся і тычацца нашага жыцця, нашай веры, нашых праблем, нашага права, якое часта ігнаруецца, парушаецца, не прыкмячаецца дзякуючы таму, што многія грамадзяне нават не здагадваюцца пра яго існаванне, а калі і ведаюць, то не вераць, што ў нашай дзяржаве можа перамагчы справядлівасць.**



**Галіна Сутула -- прафесійны журналіст. Скончыла Беларускі Дзяржаўны Універсітэт. Супрацоўнічае з многімі рэспубліканскімі, абласнымі, раённымі выданнямі. Аўтар кнігі "След на вечным гасцінцы". Рэдактар газеты "Вольнае Глыбокае".**

### Люты 1972г.

За сцяной віруе завея. Пад націскам ветру сцены нашай драўлянай хаты аж трашчаць. А мы з мамай сядзім на цёплай печы, і яна расказвае мне, як яны жылі раней.

У майго дзеда Васіля было некалькі гектараў зямлі, свае коні, гаспадарка. Працавалі дружна ўсёй сям'ёй. Самі распараджаліся, калі сеяць, калі касіць. Кожную нядзелю запрагалі каня ў вазок, ехалі ў царкву. Маліліся. Пасля радню наведвалі.

Цяжка было працаваць на зямлі, але ж праца была па прызванню. Ды і ведалі: усё, што нажыта -- дзеля сябе, дзеля дзяцей ды ўнукаў. Была вера ў дзень заўтрашні.

Прыйшлі бальшавікі. Зямлю, якую людзі купілі і апрацоўвалі -- адабралі, пакінуўшы адзіную прывілею сялянам: уступаць у калгасы. **Сялян пазбавілі права ўласнасці на зямлю.** Узамен прадставілі права на рабскае існаванне, якое цягнецца ўжо колькі дзесяцігоддзяў.

Няўжо няўцям уладам, што чым багацей жывуць грамадзяне, тым багацейшай будзе краіна?

### Травень 1973г.

У суседняй вёсцы Верхняе была царква. Невялічкая драўляная, але людзі з зямным паклонам і пакаяннем прыходзілі сюды, прыносілі ў сэрцах боль і радасць, спадзеючыся на Боскую літасць.

Людзі песцілі ў душы Веру ў Бога.

Вера выхоўвала ў людзях сумленне, дабрыню, міласэрнасць, шчырасць, выхоўвала Асоб і Грамадзян, якія мелі пачуццё павагі да сябе, сваіх продкаў, да сваёй зямлі і роднай мовы.

Бальшавіцкая ж ідэалогія магла кіраваць толькі тупым, бяздумным натоўпам.

Ржавыя цвікі атэізму ўбіваліся ў людскую свядомасць. Цэрквы пераўтвараліся ў зернесховішчы і склады. Царква была аддзелена ад дзяржавы. Людзі былі адлучаны ад царквы. **Людзей пазбавілі права мець веру.** Ці дажыву я да таго часу, калі Вярхнянская царква ажыве звонам, людской гамонкай і светлай малітвай?

### Сакавік 1974г.

Зноў надыходзіць вясна, і я яе баюся. Кожную вясну перад пасяўной у калгасе імя Чапаева, дзе мы жывём, пратраўліваюць зерне. Мая маці з іншымі вясковымі жанчынамі будзе працаваць на таках, з раніцы да вечара на поўныя грудзі ўдыхаць ядахімікаты, а затым яна будзе доўга кашляць і пляваць кроўю. Мне так шкада яе! Схаваюся дзе-небудзь, паплачу, каб яна не бачыла. Так баюся, каб не памерла...

Не разумею: чаму не даюць ні марлевых павязак, ні распіраторных масак? Прымушаюць толькі распісацца, што тэхніка бяспекі не парушаецца. І жанчыны распісваюцца, уласнымі рукамі ставяць крыж на сваім здароўі. Няўжо такі парадак правільны? **Няўжо чалавек не мае права на працу без рызыкі для здароўя?**

### Жнівень 1976г.

Сярэдзіна месяца. Спякота такая, што аж зямля пашчапалася.

Жніво. Маці зараз не бывае суткамі дома, за гаспадыню -- я. Днём мама працуе ў брыгадзе. Вечарам падбяжыць, падробіцца і спяшаецца ў начную на зернесушылку. Раніцай прыходзіць змучаная, збітая бяссонніцай: шаснаццаць гадзін у суткі адпрацаваць каню цяжка. Але пра адпачынак і размовы няма. Прыходзіць брыгадзір, просіць выйсці то на лён, то на адвозку гною, і маці ідзе. Думае, што двужыльная, усё ўтрывае. А калі што -- ніякі калгас мне, сіраце, не дапаможа. Выцяскаюць з людзей апошняе, ніхто не думае пра асабістае жыццё калгаснікаў. Ды і не ведаюць калгаснікі, **што ў іх ёсць законнае права і на адпачынак, і на адпаведную, у двухкратным памеры, аплату працы ў выхадныя, начныя.** Ніхто нічога не дабіваецца.

Як лёгка кіраваць вось такімі маўклівымі, добрасумленнымі людзьмі, якія гатовы за грашы закрываць сабой калгасныя "амбразуры".

> *Права – гэта не тое, што хтосьці Вам дае, а тое, што ніхто не можа ў Вас адабраць.*
>
> *Рамзей Кларк.*
>
> *Былы генеральны пракурор ЗША, 1977 г.*

### Верасень 1977г.

Канікулы падыходзяць да канца. У калгасе ж зараз добрыя заробкі на льне. Брыгадзір згадзіўся ўзяць мяне, маю сястру і сяброўку рваць лён на наўдобіцах, куды не дойдзе льнокамбайн.

Шчыравалі ад душы: капейка ў сям'і лішняй не будзе. Калі брыгадзір абмерыў зробленае, я папрасіла яго падлічыць колькі мы зарабілі. Яго гэта вельмі здзівіла, але,відаць, каб адчапіцца нешта для прыліку прыкінуў. Заробкі выходзілі з гулькін нос.

Я папрасіла яго растлумачыць наконт расцэнак, чым выклікала абурэнне. З тлумачэнняў выходзіла, што мы -- дзеці і за працу нам плацяць удвая дзешавей, чым дарослым. Цяпер абурылася я і пачала выказваць свае довады. Яны былі пераканаўчымі не па гадах.

- Ну і нахабная моладзь, - быў адказ брыгадзіра.

Я прапусціла тыя словы і дадала: "Калі мы атрымаем за зробленае ўдвая менш, чым дарослыя, я пайду да старшыні, а пасля ў суд".

Не ведаю: пайшла б я па інстанцыях ці не, але **для мяне было вельмі важна не дапусціць падману, супрацьстаяць яму і даказаць сваё права на гарантаваную дзяржавай аплату працы.**

Атрымалі мы за той лён утрая больш таго, што налічыў брыгадзір. Столькі ж налічылі і жанчынам. Я была задаволена не столькі тым, што зарабіла грошы, колькі тым, што **прымусіла паважаць сябе і сваё права.**

### Красавік 1978г.

Вельмі цікава атрымліваецца: кожная рэдакцыя -- гэта не самастойная арганізацыя, а толькі **орган** нейкіх райкамаў, выканкамаў, Саветаў. Чытаць газеты сумна. Не верыцца ў тое, што нашае жыццё гладкае і лепей, чым у нас, нідзе не бывае.

**Нас, чытачоў, проста абкрадаюць, пазбаўляюць права атрымоўваць рознабаковую, а, галоўнае, праўдзівую і цікавую інфармацыю.**

Калі пішуць пра чалавека, то абавязкова гэты чалавек -- камуніст і з усіх бакоў дадатны. Іншы раз добра ведаеш пра ўсё "дадатнае" і робіцца горка: навошта патрэбна паказуха?

**Як цяжка быць нечым органам!**

### Кастрычнік 1979г.

Люблю ўрокі гісторыі, асабліва калі праходзім старажытнасць. Даходзім да савецкага перыяду -- адны штампы і "лапша на вушы". Той -- герой, той -- вораг, гэны -- кулак, той -- сумленны камуніст. Кожны мае свой ярлык і ніякай сярэдзіны няма. Вам даводзілася бачыць сумленнага камуніста? Мне здаецца, што апошнія два словы наогул не могуць спалучацца.

Былі шчырыя радавыя камуністы, якія дыхалі на тую "голую" ідэю, але яны былі звычайнымі падманутымі сістэмай людзьмі. Мне пашчасціла спачатку чуць, затым пазнаёміцца, пасля пісаць нарыс пра цудоўнага чалавека, камуніста, працаўніка, талковага кіраўніка Максіма Аляксандравіча Клімянка, былога старшыню калгаса імя Чапаева Глыбоцкага раёна. Гэта, бадай, адзіны чалавек, пра якога людзі да цяперашняга ўспамінаюць з павагай і ўдзячнасцю. Але вярнуся да гісторыі.

Эканоміка развіваецца. Тэмпы росту вытворчасці растуць, культура культурнее, а для селяніна з маёй вёскі адзіная ўцеха пры гэтым прагрэсе -- танная гарэлка. Кошт на яе спецыяльна не падымалі -- гэта ўжо палітыка.

Усё выдатна. Усё цудоўна. Не веру я ў гэта, бо бачу зусім адваротнае. Навошта ж забіваць дзіцячыя галовы размалёванай хлуснёй? А колькі праўды гістарычнай, непажаданай некаму схавана ад нас? Дайце магчымасць ведаць усё: кожны сам разбярэцца як і што.

**Няўжо я не маю права на атрыманне не толькі бясплатнай (гэта так), але і якаснай адукацыі?**

### Лістапад 1987г.

Родная камуністычная партыя "падаравала" сваім гарамадзянам Афган, **пазбавіўшы** тым самым людзей, маладых хлопцаў, усіх ваенных **права на жыццё.**

Дзяржава (Савецкі Саюз), якая павінна абараняць жыццё чалавека ад усялякага роду проціваправўных замахаў, сама выпраўляе на смерць.

У расійскай газеце "Известия" за 5-е верасня прачытала артыкул Ш.Жаксыбаева "Маці салдата". Доўга не магла прыйсці ў сябе. Жанчына страціла на той вайне адзінага сына. У прыпадку гора яна патрабавала ад улад вярнуць ёй роднае дзіця. Ёй прыгразілі і паабяцалі знайсці адпаведнае месца. У псіхіятрычнай бальніцы яе трымалі супраць волі. Не пускалі на магілу сына. Затым паспрабавалі адмяніць жалобу...

Відаць, каб засцерагчы сябе ад падобных артыкулаў, партыя наклала забарон на Афган. **Тым самым партыя садзейнічала ўтварэнню "белых плям" у гісторыі, пазбаўляла людзей, якія страцілі на афганскай вайне родных і блізкіх права помніць, а нас, грамадзян, права гістарычнай памяці.**

Няўжо людзі павінны хаваць свой боль і баяцца сваёй памяці, каб не ўгнявіць некага?

### Ліпень 1980г.

Скончыла дзесяцігодку. Атрымала дыплом. Ужо дарослая. Чым больш жыву, тым больш узнікае пытанняў: навошта? чаму? як? каму? за што? Ніхто не дапаможа знайсці адказы. Толькі сама. Шукаючы, вучуся яшчэ ў адной школе, Школе жыцця...

Прыехала ў райцэнтр. Удалося знайсці кватэру. працу, з'явіліся сябры, знаёмыя...

Мой сусед разышоўся з жонкай. Ціха, мірна падзяліліся і раз'ехаліся, каб людзей не смяшыць. Дык яго выклікалі на пасяджэнне партарганізацыі, пясочылі за развод. Во як захоўваюць у нас маральную чысціню!

Калі і ў асабістае жыццё сунуць нос партарганізацыі, то ў чалавека не застаецца ўжо нічога патаемнага, інтымнага. **Дзе ж падзелася права неўмяшання ў асабістае жыццё?**

### Ліпень 1985г.

Выбары за выбарамі. Цікава тое, што ўлады прапануюць усяго адну кандыдатуру. З каго тады выбіраць? **Права выбару парушаецца ўвачавідкі.**

Выбары ў вёсцы. Задзейнічана ўся сельская інтэлігенцыя ад дыспетчара да бібліятэкара. Здараецца, што людзі перш чым галасаваць за прапанаванага кандыдата пачынаюць цікавіцца, распытваць пра яго, бо не ў кожным населеным пункце яго ведаюць і знаёмы з выбарчай праграмай. У роспытах ужо бачаць крамолу. Адказ адназначны: "Ці галасуй, ці не атрымаеш корму на карову", альбо "не дадзём машыну брыкет прывезці..."

Важкія аргументы, пад цяжарам якіх селянін згінаецца, нібы пад пудовым мехам. І кідае тую паперку ў скрынку і спяшаецца ад грэху падалей. Вось вам і права на тайнае галасаванне.

### Травень 1986г.

Афганістан крыху рассакрэцілі. Затое падобны лёс спасціг Чарнобыль.

26 красавіка ў спякотны дзень мы ўсе загаралі на вуліцы. А ў гэты час наша родная дбайная дзяржава хавала ад нас праўду пра радыяцыю, папіраючы нашым здароўем і мы, нават не абураючыся, усе разам не патрабуем адказу. У нас жа не бачаць людзей. Мы -- быдла, якое можна выправіць на чарговую бойню, наслаць мор (радыяцыйны, напрыклад) і не панесці адказу.

**А можа нам і не трэба права людзьмі звацца?**

### Чэрвень 1989г.

Давялося крыху папрацаваць журналістам у "раёнцы". Там свае правілы: "вострыя" матэрыялы не даюць. Калі які крытычны матэрыял і даецца, то толькі з "благаславення" мясцовых улад, толькі папярэдне знайшоўшы вінаватага "стрэлачніка".

Эканамічныя, фінансавыя праблемы, аплата працы -- усё даецца з большага, а то і зусім няма ніякай інфармацыі. Раённы друк "сядзіць у кішэні" свайго гаспадара -- мясцовых Саветаў, якія яго "кормяць". **Каб быць друку чацвёртай уладай, неабходна перадаць газеты прыватнікам, якія будуць залежыць толькі ад чытачоў.**

### Травень 1991г.

У нас, як у тым кінафільме "Вяселле ў Малінаўцы": зноў улада мяняецца. Дэмакратыяй пацягнула. Хтосьці кінуў работу і пачаў шукаць сябе ў шматлюдным натоўпе, "мацаць" свой бізнес і вяртаць страчанае некалі нашымі продкамі права гаспадара, права на любімы занятак.

Заканчваю універсітэт. Прафесія журналіста па душы, толькі разумею: працаваць па прызванню не прыйдзецца. Дзяржава не можа забяспечыць нам, будучым і цяперашнім спецыялістам, права мець любімую работу, бо жывучы яшчэ перажыткі камунізму: блат, сацыяльныя прывілеі, грашовая падзяка, яўны падхалімаж. Ды і не любяць **у грамадстве людзей з абвостраным пачуццём справядлівасці**, якія заўсёды "чэшуць" улады супраць шэрсці...

### Чэрвень 1993г.

Не дай Бог захварэць, а быць здаровым пры нашым жыцці і бясконцых стрэсах вельмі цяжка.

Ахова здароўя ў нас пакуль афіцыйна бясплатная, але іншы раз заплаціў бы, каб толькі не прыніжацца і не даказваць сваё права распараджаецца сабой.

Ідзеш, напрыклад, да хірурга – не спяшайся. Заглянi на флюраграфію. Калі ты жанчына – да гінеколага. А ўсюды чэргі. А ў цябе яшчэ справы.

Свае прафесійныя інтарэсы (прафілактыка захворванняў і інш.) урачы імкнуцца вырашыць за кошт нашых і без таго слабых нерваў і часу. І галоўнае, што ніхто не просіць, не тлумачыць патрэбу нашых "экскурсій", усё ў прымусовым парадку.

Апошнім часам сцяжынка да патрэбнага ўрача падаўжэла, бо трэба яшчэ прайсці агляд на педыкулёз і зазірнуць у тубкабінет. Ці заўсёды нам патрэбен такі клопат? Адным словам, **мы ўжо не гаспадары саміх сябе** і вельмі часта нас прымушаюць выконваць абавязкі, не прадугледжаныя законам.

### Жнівень 1995г.

Інфляцыя. Дэнамінацыя. Прыватызацыя. Кампенсацыя... Б'е па галаве новая лексіка, а кішэні пусцеюць. Расслаенне грамадства на тых, хто набраўся і на тых, каго абакралі, папіраючы ўсемагчымыя правы. Першыя сёння – новыя белару-

